# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 6 (624) ГОД XIII 11 ЛЮТАГА 1968 г. ЦАНА 60 гр.

# БГКТ

## СПРАВА ПЛАНАЎ І ГУРТКОЎ БГКТ

27 студзеня адбылося пашыранае пасяджэнне Прэзідыума з удзелам членаў Рэвізійнай камісіі, інструктараў ГП і старшынь аддзелаў. Павестка дня складалася з наступных пунктаў: 1) аналіз справаздачы за 1967 г., 2) зацверджанне плана працы БГКТ на 1968 год, 3) Дырэктывы нацыянальнай камісіі пры Ваяводскім камітэце ПАРП для нацыянальных таварystваў на Беласточчыне да рэалізацыі пастаноў 8-га пленума ЦК ПАРП, 4) справы розныя, 5) дыскусія.

## ДАНЫЯ МУЗЕЯ АД 1967 ГОДА

Этнаграфічны музей БГКТ у Белавежы, які створаны Галоўным праўленнем пры дапамозе мясцовага ГС-у, стаўся ад мінулага года культурна-асветнай адзінкай. А вось коратка аб дзейнасці музея ў 1967 годзе. У мінулым годзе сабрана было 90 каштоўных экспанатаў і зараз налічваецца іх 497. У сакавіку музей атрымаў ад ГП штатнага працаўніка. З'яўляецца ім магістр Уладзімір Гацута. У маі пачалася афіцыйная рэестрацыя наведвальнікаў. Устаноўлены цэны білетаў па 2 і 1 злотых. Нягледзячы на тое, што наш музей знаходзіцца ў старым драўляным, прыпадковым, цесным для яго патрэб памяшканні, аднак шмат цікавых і вельмі рэдкіх экспанатаў прыцягвае да сябе многа наведвальнікаў паасобных экскурсій з нашай краіны і з-за граніцы. Ад мая да канца мінулага года музей наведала 5534 чалавекі. З гэтага ліку каля 500 асоб — людзі з-за мяжы. Каля 300 асоб з СССР і 200 асоб з іншых краін. Усе наведвальнікі падкрэслівалі патрэбу існавання такой пляцоўкі, а таксама патрэбу ёй добрага прасторнага памяшкання.

Але каб нават ужо і гэты ГС-аўскі будынак давесці да належнага парадку і выгляду, дык тут трэба яшчэ многа чаго зрабіць. Але гэта ўсё пакуль што немагчымае, таму што нават на невялікія пакупкі для яго няма грошай. Да іншых цяжкасцей трэба залічыць недахоп рабочай сілы для далейшага парадкавання і панадворка, і паддашша, якое можна выкарыстаць на склад экспанатаў. Дрэнна і з гэтым, што няма ў музеі пакойчыка на канцылярыю для працаўніка музея. Да гэтага часу не ўдалося яшчэ зрабіць такой, як трэба ў музеі, дакументацыі. Не зроблена яшчэ таксама належных карт крыніц паходжання паасобных экспанатаў. Неспрыяльна на экспанаты музея дзейнічае нерэгулярнае аграванне памяшкання. А шкада. Трэба зрабіць усё, каб экспанаты не псаваліся, каб іх належна кансерваваць.

Адным словам, наш этнаграфічны музей мае цэлыя горы цяжкасцей, цэлыя горы нявырашаных спраў і праблем. А каб іх вырашыць, Галоўнае праўленне БГКТ не мае такіх магчымасцей, не мае фінансавых сродкаў. Неабходна тут дапамога дзяржаўных улад. Гэта дапамога павінна быць накіравана перш за ўсё на пабудову спецыяльнага памяшкання для музея.

## У ГАРАДСКІМ АДДЗЕЛЕ

На пленарным пасяджэнні праўлення гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку 24.I.1968 г. быў выпрацаваны план працы на гэты год. Многа ўвагі было звернута на аплачванне членскіх складчын і на неабходнасць арганізавання ў Беластоку пункта навучання беларускай мовы, а таксама на ўрачыстае адзначэнне Х-ай гадавіны дзейнасці гарадскога аддзела, якая прыпадае на 30-га чэрвеня. (мх)



НА КУЛІК. Фота: Віктар Рудчык




# Там, дзе рашалася гісторыя

Гісторыя свету і лёс усіх нас рашаліся ў крывавых баях Айчыннай вайны.

Гэтыя словы часта можна пачуць у прамовах і прачытаць у кніжках. Вялікія словы. Нашы бацькі аднак памятаюць, з якой трывогай зімой 1941 года людзі слухалі вестак пра абарону Масквы, як нецярпліва чакалі, што будзе са Сталінградам.

Андрэй Лукашук быў там. Сляпы лёс закінуў яго туды, дзе менавіта рашаўся лёс свету. У акопах пад Масквой прасядзеў ён паўгода, у развалінах Сталінграда ваяваў яшчэ даўжэй.

Вырас ён у беднай сям'і ў Вольцы Нурэцкай, у Сямяціцкім павеце. У школу хадзіў толькі, каб навучыцца неяк чытаць і пісаць. Зараз яму 50 год. З вайны вярнуўся інвалідам. Жыве скромна ў роднай вёсцы.

### НАВАГОДНІ БАЛЬ

— Раскажу я вам, — гаворыць старшы сержант запаса, Андрэй Лукашук, — як мы ў 1941 годзе справілі фрыцам навагодні баль.

Я служыў у сапёрах — 103 мотаінжынерны сапёрны батальён. У Чырвоную Армію папаў у 1940 годзе.

Гэтая навагодняя гісторыя здарылася ўжо пасля таго, як мы прагналі немцаў з-пад Масквы. Было гэта пад горадам Юхнаў. Нейкіх 150 кіламетраў на паўднёвы ўсход ад сталіцы. Наша мотаінжынерная сапёрная рота прарвалася ў тыл ворага. На аўтамашынах і на лыжах праімчаліся мы без боя нейкіх 40 кіламетраў. Пад поўнач наблізіліся да мястэчка, вось такога, скажам як Мілейчыцы. Нашы разведчыкі даведаліся ад мясцовых жыхараў, што нямецкае камандванне весела сустракае новы год. Наш ротны афіцэр склікаў малодшы камандны састаў на кароткую нараду. «Мы ім, — кажа, — заіграем па-свойму, з аўтаматаў». Салдат не трэба было заахвочваць. Злосныя яны былі, як чэрці. «Бачыш яго! — перагаварваліся між сабой. — Гаспадарамі ўжо пачуліся на нашай зямлі! Гульняў фрыцам захацелася!» Мы былі ў белых халатах. Ноччу на снезе цяжка нас згледзець. Ціха, без выстралу, знялі патрулёў і акружылі дом, у якім адбываўся гэты баль. Нам з панадворку ўсё было відна. Афіцэрня п'е, закусвае, дзяўчат сціскаюць, цалуюцца, музыкант рэжа факстрота. Адзін з нашых не вытрымаў. Са злосці шывырнуў гранату ў акно. Зараз паляцелі іншыя лімонкі. Праз разбітыя вокны і праз дзверы мы скочылі ў залу. Гарманіст ужо маўчаў, яго выручалі нашы аўтаматы. Эх, танцавалі фрыцы пад іх музыку, каб вы бачылі, як яны там танцавалі! Такі гэта быў гэты, навагодні баль.

### ЗУБ ЗА ЗУБ

Пасля разгрому немцаў пад Масквой і кароткага адпачынку ў тылу старшы сержант Андрэй Лукашук трапіў у Сталінград. Хто калі-небудзь чытаў кніж-

(Працяг на стр. 5)



Андрэй Лукашук у час вайны.

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КАМІСІЯ ВАЯВОДСКАГА КАМІТЭТА ПАРТЫІ АБ АМАТАРСКІМ РУХУ СЯРОД НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

**25 студзеня адбылося пашыранае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта партыі, на якім разглядаўся аматарскі рух сярод беларусаў, літоўцаў, украінцаў пражываючых на Беласточчыне. Запрошанымі былі кіраўнікі аддзелаў культуры і павятовых дамоў культуры. Камісія прадставіла справаздачу аб актуальным стане аматарскага руху нацыянальных меншасцей, апрацаваную на аснове асобных дадзеных аб адным і тым жа руху, але з розных арганізацый, напрыклад, з Беларускага таварыства, Ваяводскага дома культуры, Аддзела культуры ПВРН.**

**Канфрантацыя гэткая дала магчымасць стварыць найбольш уласцівы і сапраўдны вобраз гэтага руху, яго недахопы, з якіх галоўным з'яўляецца аднароднасць аматарскага руху, асабліва моцна назіраемая сярод беларусаў. 90% нашага руху складаюць драмгурткі, на іншыя формы — танцавальнае майстэрства, вакальнае, эстрадныя і інструментальныя формы прыпадае невялікая частка.**

**Рэдакцыя засцерагае сабе яшчэ вярнуцца да справаздачы і тэмы. Зараз хочам толькі сказаць, што так поўнай і фаховай ацэнкі аматарскага руху сярод нацыянальных меншасцей у Польшчы не даводзілася яшчэ чуць.** (вл)

# Пра савецкую песню

Як штогод, ужо сёмы раз, усе, хто любіць спяваць песні савецкіх кампазітараў, стануць да конкурсу на найлепшага выканаўцу. Найперш у павеце, з 16—17 сакавіка на ваяводскім аглядзе, які адбудзецца ў адным з прыгажэйшых гарадоў ваяводства (яшчэ такі горад не вызначаны, падамо, як толькі Ваяводскі арганізацыйны камітэт VII-га конкурсу паведаміць нас).

Сёлеташні VII конкурс савецкай песні прысвячаецца 50-тай гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі і 25 гадавіне Войска Польскага. Песні трэба спяваць на арыгінальнай мове і ў польскім тлумачэнні.

Першая ваяводская ўзнагарода — **экскурсія ў СССР** — уфундаваная Галоўным праўленнем ТПП-Р. Лаўрэаты ад II—Х-га месц атрымаюць узнагароды ваяводскага арганізацыйнага камітэта VII конкурсу. Усе ўдзельнікі атрымаюць дыпломы.

Заканчэнне VII Агульнапольскага конкурсу савецкай песні адбудзецца ад 4 да 7.IV. у Інаўроцлаве, дзе выступяць лаўрэаты I—III месц з усіх ваяводстваў. Тут будзе выбрана група найлепшых з найлепшых, якія ад 6 да 8 чэрвеня 1968 года выступяць на IV фестывалі савецкай песні ў Зялёнай Гуры.

Ад імя арганізацыйнага камітэта савецкай песні заклікаем да масавага ўдзелу ў гэтым цікавым конкурсе ўсю беларускую моладзь. (вр)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ЗМАГАННЕ...

Найбольш неспадзяванымі свету аказаліся зноў здарэнні ў В'етнаме, дзе партызаны даказваюць, што могуць атакаваць **дзе хочуць, што хочуць і як хочуць.**

А так яшчэ нядаўна, восенню, амерыканскі галоўнакамандуючы вайскамі ў В'етнаме **Вестморленд** засыпаў амерыканскую грамадскасць звесткамі аб дасканалай амаль сітуацыі ў В'етнаме. Напышліва сцвярджаў ён, што паўднёвав'етнамскія гарады ў трывалы і бяспечны спосаб апанаваныя амерыканскімі і сайгонскімі вайскамі, а партызаны сапхнуты выключна ў джунглю. Іменна восенню мінулага года пераконвалася амерыканскі народ (і многа паверыла), што дзякуючы паўтара мільённай амерыканскай арміі ў В'етнаме, насычэнню сучаснай зброяй, сродкамі транспарту і т.п. сітуацыя будзе змяняцца на карысць ЗША.

Яшчэ большая пыха апанавала амерыканскія кіруючыя кругі, калі Ханой выступіла з прапановай перагавораў. У гэтым адшукалі яны пацверджанне на слушнасць сваіх думак аб слабасці в'етнамскіх патрыётаў, а не, як найбольш, рэальную прапанову.

Вось у такой сітуацыі амерыканская грамадскасць і свет пачалі атрымоўваць паведамленні аб акружэнні партызанамі 5-тысячнай дабаровай амерыканскай арміі ў Кесань. Дні і гадзіны прыносілі новыя звесткі. Пакуль амерыканцы палапаліся ў гэтай аблаве, партызаны заатакавалі і на даўжэйшы ці карацейшы час вызвалілі 64 гарады ў 30 правінцыях уключна з Сайгонам сталіцай паўднёвав'етнамскага рэжыму. Патрыёты агульна заатакавалі 24 авіяцыйныя і ваенныя базы. Знішчана 130 самалётаў і верталётаў.

Такі размах ваенных дзеянняў сведчыць аб дасканалай каардынацыі і вялікім размаху. З гэтага пачалі здаваць у нейкай меры справу амерыканцы. Можна сказаць, што партызаны знішчылі амерыканскі аптымізм.

Цяжка далей прадбачыць сітуацыю пры безагаворачнай тэхнічнай перавазе амерыканцаў. Незалежна ад таго, якія ахвяры паносяць патрыёты ў гэтых акцыях (а мы нешта ведаем з уласнага вопыту) і колькі часу ўтрымаюцца ў гарадах, усё гэта паказвае на сілу і волю народа. ЗША могуць павялічыць колькасць арміі ў В'етнаме, але гэта эскалацыя, а яна не прыносіць спадзяванай перамогі.

### ...I ВУЧОБА

Зараз у Дэмакратычнай Рэспубліцы В'етнам вучыцца 5.600 тысяч насельніцтва, гэта абазначае 1/4 частку насельніцтва. Міма эскалацыі ваенных дзеянняў, у навучальным 1966/67 годзе колькасць вучняў пачатковых школ павялічылася да 3.600 тысяч, гэта абазначае на 30 працэнтаў больш у параўнанні з навучальным 1964/65 годам. Неабходна паінфармаваць, што толькі за два навучальныя гады (1965/66 і 1966/67) амерыканскія бомбы знішчылі 452 школьныя будынкі.

А. К.

## БССР

### З'ЕЗД

Адбыўся XII з'езд прафсаюзаў Беларусі.

З'езд заклікаў прафсаюзныя арганізацыі, усіх рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў, служачых, працаўнікоў сельскай гаспадаркі азнаменаваць гістарычныя даты — 50-годдзе Беларускай Дзяржавы, Кампартыі Беларусі і 100-годдзе з дня нараджэння У. Леніна. Будзе разгорнена сацыялістычнае спаборніцтва.

### МІЦКЕВІЧ

На апошнім пленуме ЦК беларускай кампартыі, які закончыўся 23 студзеня выбрана сакратаром ЦК і членам беларускага палітбюро **У. Міцкевіча.**

**У. Міцкевіч** з'яўляўся першым сакратаром Гродзенскага абкома кампартыі.

Старшынёй Рэвізійнай камісіі КП Беларусі выбраны **І. Кacановіч.**

### ТАНК

Група беларускіх пісьменнікаў атрымала высокія дзяржаўныя ўзнагароды.

**Максім Танк** і **Ільля Гурскі** ўзнагароджаны ордэнамі Леніна. **Іван Шамякін** і **Пімен Панчанка** ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Узнагароды ўручаў **Сяргей Прытыцкі,** Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі.

### ГРОДЗЕНСКАГА

Адбыўся пленум Гродзенскага абкома КП Беларусі. Першым сакратаром выбраны **І. Мікуловіч,** а сакратарамі — **Г. Фамічоў** і **Н. Гордзікаў.**

У пленуме ўдзельнічаў **У. Міцкевіч,** сакратар ЦК.

### ЧЫТАННІ

Літаратурныя чытанні, прысвечаныя 50-годдзю Беларускай Дзяржавы, пачаліся ў Мінску. У бібліятэцы Палаца культуры трактарнага завода і бібліятэцы № 10 адбыліся лекцыі аб развіцці беларускай драматургіі.

У гэтых мерапрыемствах удзельнічае Саюз беларускіх пісьменнікаў, беларускі Інстытут літаратуры, універсітэт, Мінскі педагагічны інстытут, Дзяржаўная бібліятэка БССР і таварыства «Веды».

### ДАРАШЭВІЧ

Памёр беларускі міністр вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, прафесар **Міхаіл Дарашэвіч.**

### ДОЎНАР

На стадыёне Мінскага аўтазавода адбыліся матагонкі па ледзяной дарожцы. У класе машын 175 кубічных сантыметраў перамогу здабыў прадстаўнік каманды мотавелазавода **Віктар Доўнар.**

### КУРЫЛА

Гродзенскі карэспандэнт «Звязды» Вітальд Іваноўскі піша пра старэйшага калгасніка калгаса «Дружба» Свіслацкага раёна **Івана Курылу,** які на самаробным станку вырабляе прыгожыя дываны.

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### АСНОЎНАЯ ПРАБЛЕМА — СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

31 студзеня Уладзіслаў Гамулка выступіў з прамоваю на нарадзе старшынь ваяводскіх і павятовых рад нарадовых. Асноўнай праблемай у прамове Гамулкі, як і ва ўсёй нарадзе, была сельская гаспадарка. Разыходзіцца аб спосабы рэалізацыі пастаноў IX Пленума партыі і апошніх сеймавых пастаноў у справе сельскай гаспадаркі: «Істота гэтых пастаноў, — заявіў Ул. Гамулка, — зводзіцца да поўнага загаспадаравання кожнага гектара зямлі і выкарыстання ўсіх яго прадукцыйных рэзерваў».

Рэзервы гэтыя, на думку Ул. Гамулкі, скрываюцца ў магчымасці паднясення занядбаных гаспадарак да ўзроўню гаспадарак перадавых. Дарогай да гэтага павінна быць ліквідацыя кансерватызму і ўстарэлых спосабаў гаспадарання ў некаторых нашых сялян. Штораз шырэйшае прымяненне ў сельскагаспадарчай практыцы новых сродкаў, новых дасягненняў навукі павінна ісці ў нагу з пастаянным уздыманнем на вышэйшы ўзровень культуры і кваліфікацыі гаспадароў. Дарогаю гэтаю, паводле Ул. Гамулкі, можна асягнуць узрост сельскагаспадарчай прадукцыі без дадатковых інвестыцыйных сродкаў.

### ПРАМОВА Р. СТШЭЛЕЦКАГА

Падчас IV з'езда ЗМС з прамоваю ад імя Цэнтральнага камітэта партыі выступіў сакратар ЦК партыі Рышард Стшэлецкі. Падкрэсліў ён вялікія заслугі Саюза сацыялістычнай моладзі ў сацыялістычным выхаванні маладога пакалення, а далей абмеркаваў некаторыя справы, якімі асабліва павінна быць зацікаўлена гэтая арганізацыя. Першапланавым заданнем маладзёжнай арганізацыі з'яўляецца заангажаванне моладзі ў традыцыйнай працы. Усебаковую дзейнасць павінна аднак маладзёжная арганізацыя праводзіць таксама ў месцы пражывання моладзі ў часе свабодным ад працы і вучобы. Вынікам гэтага павінна быць лепшае дасягненне структуры ЗМС да гэтай дзейнасці і больш цесная сувязь Саюза з рознымі грамадскімі, прафесіянальнымі і спулдзельчымі арганізацыямі.

«Ідэйна-выхаваўчая дзейнасць сярод моладзі, — заявіў Р. Стшэлецкі, — тым больш істотная, што на маладое пакаленне накіраваны асноўныя намаганні варожых для сацыялізма асродкаў прапаганды. Намагаюцца яны прывіваць маладым людзям буржуазную ідэалогію і мараль. Патрэбна шырокая выясняючая дзейнасць сярод моладзі, таму што варожыя нам сілы мэтанакіравана дэзінфармуюць, намагаюцца выклікаць недавер да партыі і народнай улады».

### 8 ПАВЕРХАЎ

За некалькі месяцаў у Гданьску аддадзены будзе ў карыстанне 8-павярховы гараж. Аб'ём будынка — 14 тысяч кубічных метраў. Змяшчаць ён будзе 130 самаходаў.

### «ВЯСНА — 68»

У днях ад 17 да 24 сакавіка г.г. адбудзецца ў Познані чарговы XXI Краёвы кірмаш «Вясна — 68».

## ВАЯВОДСТВА

### СЕЙМ І ЗЯМЛЯ

Сярод іншых шматважных пастаноў Сейм Польскай Народнай Рэспублікі на сваёй апошняй сесіі прыняў пастанову аб умовах і правілах камасацыі цераспалосіцы. Гэтая пастанова асабліва вялікае значэнне мае для Беласточчыны. Маем тут яшчэ 185 тысяч гектараў зямлі парэзанай на палоскі.

Сеймавая пастанова аб хутарызацыі абаснавана на вопыце так званай грамадскай камасацыі зямлі. Варта тады прыпомніць, што першай вёскай у Польшчы, якая грамадскім спосабам правяла ў сябе камасацыю, была вёска Капітаншчына ў Гайнаўскім павеце.

У апошніх гадах у Беластоцкім ваяводстве ліквідавана цераспалосіцу ў 23 вёсках, якія разам маюць 6.345 гектараў зямлі. Гэта нямнога ў параўнанні з тым, што прадбачваюць рабіць улады ў бліжэйшым часе. Толькі ў гэтым годзе запланавалі яны хутарызацыю на плошчы ў 24 тыс. гектараў.

Каштоўны пачын сялян Гайнаўскага павета ўрэшце знайшоў правамоцнае і абавязваючае ў цэлай краіне абгрунтаванне на высокай сеймавай трыбуне.

### ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ГАНДЛЮ

У суботу 3 лютага г.г. у Беластоку ўрачыста адзначалі дзень працаўнікоў унутранага гандлю. Адбылося ўрачыстае пасяджэнне, у час якога многія гандлёўцы атрымалі ганаровыя адзнакі і грашовыя ўзнагароды. Міністр унутранага гандлю Э. Шнайдэр прыслаў прывітальны ліст, у якім сардэчна падзякаваў работнікам гандлю Беластоцкага ваяводства «за іх цяжкую, сумленную і ахвярную працу». Пры нагодзе варта адзначыць, што да ліку лепшых у ваяводстве гандлёвых устаноў належаць: Гайнаўскі ПЗГС, Бельская ВСС і ГС у Цеханоўцу.

### КАМУ САМАХОД

У выніку лясавання кніжак ПКО, прэміяваных самаходамі, восем уласнікаў такіх кніжак з Беластоцкага ваяводства атрымала ад ПКО самаходы. Спісак шчаслівых нумараў ашчадных кніжак можна атрымаць у кожнай пляцоўцы ПКО.

### НАЙЛЕПШЫЯ Ў ПАВЕЦЕ

Гурток Саюза вясковай моладзі ў вёсцы Сакалда, Сакольскага павета лічыцца найбольш актыўным у павеце. Старшынёй гуртка з'яўляецца Рэгіна Ляўковіч.

### БАЦЬКІ — ШКОЛЕ

Бацькі вучняў, якія ходзяць у пачатковую школу імя Героя Савецкага Саюза Аляксея Фларэнкі ў Гайнаўцы, шмат чаго зрабілі ўжо для гэтай новай школы грамадскім чынам. На вясну гэтага года бацькі маюць намер абсталяваць сваім дзецям школьную спартыўную пляцоўку. Будзе гэта каштаваць 170 тысяч злотых.

### КАВЯРНЯ

У Сухаволі, Дуброўскага павета, адкрыта нядаўна невялікую прыватную кавярню, у якой можна атрымаць каву, гарбату, пірожнае, адвараную каўбасу і булачкі.

(вр)




**NIEDZIELA, 11.II.**

9.15 Program dnia. 9.20 TV Kurs Rolniczy: „Rezerwy nawozowe w gospodarstwie". 9.55 „Przypominamy, radzimy". 10.10 „Bonanza" — film. 11.00 PKF. 11.10 „Lodowy tramwaj" — film radz. 11.25 „Dostojni" — film („Uciekinier"). 11.50 Dziennik. 12.00 Poranek muzyczny. 13.00 Zimowe Igrzyska Olimpijskie. Skoki narciarskie. 15.10 Kronika Olimpijska. 15.25 „Przemiany". 15.55 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Pieskie kredowe koło" („Ula i świat"). 16.25 „Wielka Gra" — teleturniej. 17.25 „Czarne berety" — Zespół Estradowy Pomorskiego Okręgu Wojskowego. 18.15 „Ludzie i zdarzenia". 18.30 Felieton literacki. 18.45 „Upiór" — film TVP („Opowieści niezwykłe"). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 „Spadek" — film tv argentyńskiej. 21.15 „Miłość na pięciolinii" — Filmowy program rozrywkowy NRD. 22.05 Wiadomości Sportowe. 22.10 Kronika Olimpijska 22.35 Zimowe Igrzyska Olimpijskie. Mecz hokejowy Kanada—USA.

**PONIEDZIAŁEK, 12.II.**

11.45 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble — slalom gigant mężczyzn II seria. 13.15 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.40 Politechnika TV. 16.45 Kronika Olimpijska. 16.55 Dziennik. 17.00 „Kino Ptyś". 17.15 „Naica". Film rum. 17.35 „Steffanson — piewca północy" — film kanad. 17.50 „Eureka". 18.25 „7 milionów młodych". 18.40 „Jacy będziemy w roku 2000". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: T. Dorst — „Zakręt". ok. 21.00 „Klaps". 21.30 Dziennik. 21.45 Kronika Olimpijska.

**WTOREK, 13.II.**

10.00 Dla szkół (kl. I) „Wizyta w mieście". 10.25 „Dama z pieskiem" — film fab. radz. 11.55 Dla szkół (kl. V i VI) Język polski — O miejsce wśród ludzi „Genialny pomysł" (Koleżeństwo). 12.30 Przysposobienie Rolnicze: „Wapnowanie gleb". 13.15 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble — slalom specjalny kobiet. 14.30 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.05 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 „Zapraszam na wtorek wieczór". 17.25 „Kamień i historia" — film Tele-Aru. 17.40 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble — mecz hokejowy ZSRR—Szwecja II i III tercja. W przerwie ok. 18.00 TV Kurier Warszawski. 19.00 „Nie tylko dla pań". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Giełda Piosenki". 20.40 „Z domu..." — program obyczajowy. 21.15 „Rozmowy o książkach". 21.20 Dziennik. 21.40 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble. Mecz hokejowy Czechosłowacja—Kanada, II tercja. 22.10 Kronika Olimpijska. 22.30 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble. Mecz hokejowy Czechosłowacja—Kanada, III tercja

**SRODA, 14.II.**

9.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie: „Więcej światła". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Fizyka: „Energia potencjalna i kinetyczna". 11.25 „Farbiarz na emeryturze" — film („Sherlock Holmes"). 12.15 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.05 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Czyje to ślady". 17.20 Dla dzieci: „Bolek i Lolek na wakacjach" — film. 17.30 PKF. 17.40 „Telekram". 18.00 „Kłopoty pana Tenkrata" — film CSRS. 18.15 „Johannes Brahms" („Sylwetki kompozytorów"). 18.45 Wszechnica TV: „Moralność mieszczańska". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Farbiarz na emeryturze" — film („Sherlock Holmes"). 20.55 „Swiatowid". 21.25 Dziennik. 21.40 Kronika Olimpijska. 22.00 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble — jazda figurowa parami.

**CZWARTEK, 15.II.**

9.55 Dla szkół (kl. VIII) Historia — „O godność i chleb". 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski „Staff—Leśmian—Tuwim". 12.25 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 i 23.05 Politechnika TV. 16.45 Kronika Olimpijska. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Ekran z bratkiem". 17.30 „Kanada po polsku" — film Tele-Aru. 17.50 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble — mecz hokejowy Szwecja—Kanada, III tercja. 18.30 „Poligon". 18.55 „Wielkie balety". 19.30 „Dobranoc". 19.40 Dziennik. 20.15 „W Linvale nic się nie stało" — film. 21.05 „Rozmowy o książkach". 21.20 Dziennik. 21.40 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble — mecz hokejowy ZSRR—CSRS, II tercja. 22.10 Kronika Olimpijska. 22.30 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble — mecz hokejowy ZSRR—CSRS, III tercja.

**PIĄTEK, 16.II.**

9.35 „Jimmy i kobieta zdecydowana" — film tv ang. 10.55 Dla szkół (kl. VI) Wychowanie plastyczne: „Architektura". 11.25 Przerwa. 13.15 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble — slalom specjalny mężczyzn. 14.30 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.05 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 „Miś z okienka". 17.15 „Rycerz Zawierucha" — film. 17.45 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 Recital piosenkarki algierskiej Noury. 18.15 „Człowiek a ziemia". 18.45 „Czwarta zmiana". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 „Jimmy i kobieta zdecydowana" — film tv ang. 20.45 Wszechnica TV: „Hipnoza". 21.15 Dziennik. 21,35 Kronika Olimpijska. 22.00 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble. Jazda figurowa mężczyzn.

**SOBOTA, 17.II.**

10.00 „Przed świtem" — film tv ang. 10.50 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VI). Geografia: „Między Wisłą a Pilicą". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: „Australia". 13.15 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble — slalom specjalny mężczyzn. 14.30 Przerwa. 15.15 Program dnia. 15.20 TV Kurs Rolniczy: „Warunki intensywnego nawożenia azotem". 15.55 Program tygodnia. 16.15 „Piąty Trójmecz Harcerski". 17.20 Dziennik. 17.30 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble — mecz hokejowy Szwecja—CSRS. 19.30 „Dobranoc". 19.40 „Monitor". 20.20 „Małżeństwo doskonałe" — program rozrywkowy. 21.20 Dziennik. 21.40 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble — mecz hokejowy ZSRR—Kanada, II i III tercja. 22.10 Kronika Olimpijska. 23.00 „Przed świtem" — film tv ang.




**Piątek, 9 lutego**

8.45 Transmisja z Olimpiady. 15.05 J. ang. dla przedszkolaków. 15.30 Wiadomości wiejskie. 15.50 TV mecz piłkarski „Dynamo" (Mińsk). 16.30 Olimpiada. Hokej. ZSRR—USA. 19.00 Dziennik. 19.10 Na muzycznej fali. 19.15 Sztafeta nowin. 20.00 Koncert życzeń. 20.30 „Aktorzy i role" (Roman Filipow). 21.30 Na dobranoc.

**Sobota, 10 lutego**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.30 Dla studentów. 8.15 Olimpiada (narty, łyżwy). 10.30 J. ang. dla przedszkolaków. 11.00 Szkatułka Muzyczna. 11.20 „Sztuka dokumentu". 12.00 Telewizja barwna. 13.30 Spektakl TV dla dzieci. 14.30 „Na straży interesów społeczeństwa". 15.00 „Piosenka w żołnierskim płaszczu". 16.00 Kronika półwiecza: „Rok 1966". 17.00 „Klub Wesołych — 68". 18.30 „Czas". 19.00 Olimpiada (jazda figurowa, kobiety).

**Niedziela, 11 lutego**

6.30 Dla studentów. 7.00 Gimnastyka. 7.15 „Budzik". 7.45 Bajki dla dzieci. 8.15 „Białe i czarne". 8.45 Olimpiada (narty, łyżwy). 11.15 Kronika filmowa. 11.30 „Siostra Ilicza". 12.00 Telewizja barwna. 13.00 Olimpiada (skoki narciarskie). 15.00 Klub Wiejski. 16.00 Kiosk Muzyczny. 16.30 Olimpiada. Hokej. USA—Kanada. 18.45 Siedem dni. 19.15 „Zegarek stanął o północy". Film. 21.00 Olimpiada. Hokej. ZSRR—NRF.



Студэнты на практычных занятках у лабараторыі хіміі.

## У НАШЫХ СЯБРОЎ



Пад кіраўніцтвам асістэнта кафедры нармальнай фізіялогіі Фаіны Сянько студэнты 4-га курса праводзяць комплексныя даследванні сардэчна-сасудзістай сістэмы хворага.

# ІНСТЫТУТ У ГРОДНА

Гродзенскі медыцынскі інстытут адкрыўся ў 1958 годзе. У першым годзе яго аўдыторыі прынялі ўсяго 250 студэнтаў, мала было кваліфікаваных настаўнікаў. Цяпер тут займаецца 1992 студэнты. На трыццаці чатырох кафедрах інстытута працуе 196 асоб прафесарска-настаўніцкага складу, сярод якіх сем прафесараў і восемдзесят два кандыдаты медыцынскіх навук.

У інстытуце створаны добрыя ўмовы для плённай вучобы студэнтаў. Для іх пабудавана два вялікія вучэбныя карпусы, інтэрнат. Для студэнтаў у інстытуце ёсць свая багатая бібліятэка, а для практычных заняткаў — добра абсталяваныя лабараторыі. Апрача гэтага, студэнты ў працэсе вучобы праходзяць практыку ў клінічных бальніцах, якіх у горадзе налічваецца чатыры.

У інстытуце створана студэнцкае навуковае таварыства, якое аб'ядноўвае 520 студэнтаў. Праблемы, якія даследуюцца членамі гэтага Таварыства, важныя і актуальныя. Таму не выпадкова, што даклады гродзенскіх студэнтаў з асаблівай увагай слухаліся на студэнцкіх навуковых канферэнцыях у Вільнюсе, Таргу, Мінску, Віцебску, Кіеве, Львове і Варонежы.

У свабодны ад заняткаў час студэнты ўдзельнічаюць у мастацкай самадзейнасці, займаюцца спортам. Яны займаюцца ў розных спартыўных секцыях, удзельнічаюць у спаборніцтвах. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці часта выступаюць з канцэртамі ў сваім інстытуце, у клубах прамысловых прадпрыемстваў, выязджаюць з канцэртамі ў калгасы.

**В. Лукашэнка**

Фота: **Э. Трыгубовіча**



Прафесар Юрый Астроўскі (справа) і асістэнт кафедры біяхіміі Фёдар Ларын у лабараторыі ізатопаў.



Дацэнт Васіль Нікіцін і студэнтка Наташа Мілашэнка даследуюць мускульную тканку пры дапамозе электроннага мікраскопа.



Студэнты І-га курса знаёмяцца з біялагічным м узеем.

# КУЛЬТУРА УСХОДНІХ СЛАВЯН У XVI СТАГОДДЗІ

У XVI стагоддзі ўсходняя славяншчына раздзелена была мяжою паміж двума вялікімі палітычнымі арганізмамі таго часу — паміж спалучанаю з Польшчай уніяй Літву і Маскоўскую Русь. У рамках Маскоўскай Русі фармавалася нацыянальнасць вялікарусаў, у рамках літоўска-беларускай дзяржавы фармавалася беларуская нацыянальнасць. Асноўныя цэнтры рускай культуры тых часоў знаходзіліся якраз на тэрыторыі «Заходняй Русі», а ў асаблівасці Беларусі.

Развіццё абодвух гэтых цэнтраў усходнеславянскай культуры — маскоўскага і літоўска-беларускага ішло ў двух розных напрамках. Маскоўская Русь стварыла асновы для сваёй сістэмы, якую абаперла на падпарадкаванні ўсіх галін жыцця і культуры патрэбам самадзяржаўя. Праявілася гэта асабліва ў працэсе «нацыяналізацыі» праваслаўя. Як вядома, Русь прыняла праваслаўе з Візантыі ўводзячы ў праваслаўныя грэцкія абрады і рэлігійныя тэксты пэўныя недакладнасці, якія вынікалі проста са слабога ведання грэцкіх арыгіналаў. У XVI стагоддзі ўсе гэтыя хібы рускага праваслаўя паднесены на вышыню асноўных прынцыпаў нацыянальнай рускай рэлігіі. Наступіла падпарадкаванне царквы дзяржаве, царкоўная ідэалогія сталася ідэалогіяй трону, усялякія адступленні і вольнадумствы пачаліся сурова праследвацца. Асноўным ворагам новага ідэйна-палітычнага ладу стаецца ўсялякая незалежная свабодная думка, усялякая глыбейшая адукацыя.

«Всем страстям маті-мненіе. Мненіе — второе паденіе», — так фармуліруе асноўную жыццёвую праўду часоў Івана Грознага адзін з тагачасных ідэолагаў[1]).

Аб стане адукацыі таго часу можа сведчыць факт, што людзі, якія мелі сцерагчы «чысціні» рускага праваслаўя, якія цара называлі царом над усіма хрысціянскімі народамі, а Маскву — трэцім Рымам, словам людзі, якія акрэслівалі новую дзяржаўна-царкоўную ідэалогію, зусім не адрознівалі святога пісання ад усялякай іншай літаратуры. Паводле слоў удумлівага даследчыка гэтых спраў для іх: «Под одну рубріку ідёт Евангеліе і Житія святых, Біблія і запрещенныя церквою хрістіянскія легенды, ученія отцов церкві і законы візантійскіх імператоров. Всё это для начетчіков того времені, одінаково есть «Божественное пісаніе». [2])

Зразумела, што калі знаходзіліся ў Маскоўскай Русі людзі з уласным такім ці іншым «мненіем» — лёс іх быў незайздросны. Іх замыкалі ў цёмных келіях манастыроў, або высылалі на вядомыя ўжо тады Салавецкія астравы, некаторым удавалася перакрочыць мяжу і схавацца на тэрыторыі сённяшняй Беларусі. Абяспечаныя дзяржаўнай мяжою пісалі яны да цара доўгія лісты і палемічныя трактаты, прабуючы пераканаць арганізатараў апрыччыны ў няправільнасці метадаў знішчэння тэрорам усялякіх праяваў свабоднай думкі.

У межах літоўска-беларускай дзяржавы сапраўды можна было тады пісаць і гаварыць аб усім. Дзейнічалі і пісалі свае працы на беларускай мове ідэолагі розных веравызнанняў і рэлігійных плыняў. У супрацьлегласць да Масквы, дзе рэлігія зведзена была да сляпога падпарадкавання знешняй рускай абрадавасці, над святасцю якой не магло быць аніякай дыскусіі, беларуская рэлігійная літаратура перасычана была ідэямі рацыяналізму і гуманізму, палемісты дыскутавалі тут аб усім імкнучыся сілай уласнай логікі даказаць свае праўды.

Варта прыпомніць некалькі постацей таго часу. Найбольш вядомым быў Францішак Скарына, чалавек надзвычай шырокай, усебаковай адукацыі ў еўрапейскіх маштабах. Скарына зрабіў не абы што: выдаў Біблію на беларускай мове. Таго, каго можа здзівіць факт, што надрукаванне Біблii на жывой беларускай мове лічым вялікім дасягненнем Францішка Скарыны, можна паінфармаваць, што Біблія на рускай мове ўпершыню ў Расіі выдадзеная была пасля доўгага зматання з царкоўнай цэнзурай толькі ў канцы мінулага стагоддзя. Вядома, што Біблія праз доўгі час была магутнай зброяй у руках свабодадумцаў і радыкальных рэлігійных прапагатараў. Хаця фармальна царква абапіраецца на святым пісанні, фактычна было яно доўгі час невядомым не толькі простым людзям, але і святарам. Скарына імкнуўся зрабіць яго даступным для ўсіх.

З іншых асоб, якія развівалі актыўную літаратурную дзейнасць на тэрыторыі Літоўскага княства варта ўспомніць аб радыкальным пратэстанце Шымане Будным, ерэціку Феадосію Касым, які ўцёк з заняволення ў адным з маскоўскіх манастыроў, Пятру Мсціслаўцу і шмат іншых асоб.

**Ул. Паўлючук**

[1]) П. Мілюков: Очеркі по історіі русской культуры. С. Петербурга 1899. Стар. 25.

[2]) Там жа, на стар. 26.

## „Свет вакол нас“

З такога цыкла Таварыства прыяцеляў Белавежы арганізавала ў канцы студзеня ў мясцовай школе лекцыю з празрочамі. Загаловак лекцыі «Сібір, яе прырода і сённяшні дзень». Вёў доктар **Рамуальд Альчак** з Лодзінскага універсітэта. (вл)

 




## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары)*

Паўстанне ў Беларусі ўспыхнула ў канцы студзеня 1863 года. Кіраваў ім «Літоўскі правінцыянальны камітэт», у склад якога апрача Кастуся Каліноўскага ўваходзіла шмат паноў-абшарнікаў. Паны імкнуліся загамаваць наплыў сялян да паўстанчаскіх атрадаў. Яны разумелі, што сяляне аднолькава ненавідзяць паноў, як і цара. Таму хацелі, каб паўстанне мела шляхецкі характар. Кастусь Каліноўскі супраціўляўся іх намерам і дзеянням. Ён намагаўся, каб паўстанне набыло характар сялянскай рэвалюцыі.

Паўстанне спачатку ахапіла гродзенскую губерню, а потым разгарнулася па ўсёй краіне. Усюды ўзнікалі паўстанчаскія атрады. Яны складаліся з моладзі, інтэлігенцыі, чыноўнікаў, леснікоў, раменснікаў, сялян. Паўстанцы, узброеныя ў дубальтоўкі, сякеры і косы, нападалі на атрады царскіх войск, займалі вёскі і мястэчкі. У вызваленых мясцовасцях яны аб'яўлялі ўсё насельніцтва, незалежна ад паходжання і веравызнання, вольным, перадавалі сялянам «на вечнасць у поўнае ўладанне без чыншу і выкупу тую зямлю, якую яны мелі да гэтага часу» і абяцалі беззямельным сялянам, уступіўшым у паўстанчаскія атрады, надзелы зямлі. Аднак кіраўніцтва паўстання не перадавала ўсёй зямлі сялянам, яно захоўвала памешчыцкае землеўладанне і гэтым знеахвочвала частку сялян да ўдзелу ў паўстанні.

Кастусь Каліноўскі асабіста кіраваў паўстаннем на Гродзеншчыне. Ён выдаваў адозвы да сялян, наведваў паўстанчаскія атрады. Так ён наведаў паўстанчаскі лагер В. Врублеўскага каля Мілавідаў. Правёў агляд атрадаў і праверыў узбраенне. Гутарыў з паўстанцамі аб іх патрэбах і пажаданнях. Потым выступіў з палымянай прамовай, у якой заклікаў да стойкасці ў барацьбе. Прамова Каліноўскага падняла настрой у паўстанцаў, ва ўсім лагеры пачуліся беларускія і польскія песні.

Царскі ўрад слаў у Беларусь штораз больш войска. У заходняй частцы Беларусі было ўведзена ваеннае палажэнне. Царскае войска і чыноўнікі жорстка распраўляліся з паўстанцамі і іх сем'ямі. Значная частка кіраўніцтва паўстаннем была арыштавана, іншыя адмовіліся ад удзелу ў ім. Памешчыкі, перапалоханыя размахам паўстання, таксама адступіліся ад яго. Паўстаннем на Беларусі і Літве стаў кіраваць падпольны «Літоўска-Беларускі Чырвоны жонд», на чале якога стаяў Кастусь Каліноўскі.

«Літоўска-Беларускі Чырвоны жонд» складаўся з выдатных рэвалюцыянераў, якія намагаліся ператварыць паўстанне ў сялянскую рэвалюцыю. Каліноўскі заклікаў сялян браць у рукі «зямлю і волю» і не плаціць ніякіх падаткаў і не выконваць ніякіх абавязкаў ні ў карысць цара, ні ў карысць памешчыкаў.

Царызм узмоцніў сваю крывавую расправу над паўстаўшымі. Вёскі, мястэчкі і гарады напоўніліся вісельнямі. Тысячы людзей за ўдзел у паўстанні былі сасланы ў Сібір. Найбольш боездольныя паўстанчаскія атрады былі разбіты царскімі войскамі, а іх кіраўнікі загінулі або былі пакараны смерцю. Паўстанне хілілася да ўпадку.

Царскім жандарам удалося высачыць і арыштаваць Кастуся Каліноўскага — кіраўніка і натхніцеля паўстання.

10 сакавіка 1864 года Каліноўскі загінуў на шыбеніцы ў горадзе Вільні.

Пад націскам крывавай расправы царызму паўстанне ў Беларусі неўзабаве спынілася.

### *ПЫТАННІ І ЗАДАННІ*

*1. Раскажыце аб дзяцінстве і вучобе Кастуся Каліноўскага.*

*2. Калі, дзе і кім выдавалася «Мужыцкая праўда»? Аб чым гаварылася ў яе артыкулах?*

*3. Раскажыце аб ходзе паўстання ў Беларусі.*

*4. Падумайце, якія былі прычыны ўпадку паўстання на Беларусі .*

## Конкурсы — Фестывалі

Праводзіцца многа фестываляў і конкурсаў. Таму ёсць у чым выбіраць, у чым паказацца.

1. **XIV Агульнапольскі рэцытатарскі конкурс** — увайшоў у фазу павятовых аглядаў.

2. **Ваяводскі агляд эстрадных калектываў.** Адбудзецца ў сакавіку. Аддзел Культуры Прэзідыум ВРН мае ўжо каля 20-ці заявак калектываў ахвотных выступіць.

3. **Фестываль жаўнерскай песні.** Прымаюцца заяўкі. Павятовыя агляды ў сакавіку, ваяводскі — у маі. Выступаць могуць салісты, калектывы, хоры.

4. **Агульнапольскі рэцытатарскі конкурс «Паэзія братэрства і дружбы»** на паэзію савецкую, рускую і польскую. Гэта конкурс для школ, якому патрануе Кураторыя.

(зл)

## АБ'ЯВЫ

10 лютага г.г. у 18 гадз. у памяшканні ГП БГКТ (Варшаўская 11) адбудзецца акадэмія прысвечаная 130 гадавіне з дня нараджэння К. Каліноўскага. Уваход вольны.

11.II.г.г. там жа ў 18 гадз. адбудзецца канцэрт «Лявоніхі». Білеты прадае ГП БГКТ.

## Там, дзе рашалася гісторыя

**(Працяг са стар. 1)**

ку «У акопах Сталінграда», той можа мець нейкае ўяўленне, што там тварылася.

— Біліся мы амаль за кожную развáліну, за кожны дом і вуліцу, — успамінае Андрэй Лукашук. — Пачаткова наша ваенная часць замацавалася ля трактарнага завода. Сядзім у акопах, а 70 метраў далей — фрыцы. Гутарку заводзіць можна. Толькі мы не словамі, а гранатамі перакідваліся. У немцаў гранаты былі з доўгімі ручкамі. Некаторым з нашых удавалася лавіць іх у паветры і адкідваць назад. Часам гэтая гульня канчалася смерцю. Але да смерці мы прывыклі, як да бульбы. Ніхто ж з нас не думаў, што будзе жыць.

Аднойчы прыйшлося штурмам браць нейкі чатырохпавярховы дом. Ён, як корак, затыкаў праход для нашых войск да далейшых вуліц і кварталаў Сталінграда. Немцы абсталяваліся ў ім з кулямётамі і не прапускалі нашых салдат. Сотні байцоў загінула на дарозе да гэтага дома. Артылерыя наша страляць не магла, бо ў Сталінградзе свае і немцы былі перамешаны, як селядцы ў бочцы. Урэшце прыйшлося ісці мне. Я ўзяў пяцёра салдат і паўзком, як лісы, крок за крокам, метр, два... падбіраліся пад гэты дом. Немцы стралялі слаба. Мы зразумелі, што ім ужо не хапае патронаў. Гэта нас падбадзёрыла. Але і ў нас патроны ўжо канчаліся. У разгубленасці заўчасна мае хлопцы выпусцілі ўсё, што знаходзілася ў дысках. Па дарозе раніла ў руку аднаго майго байца. Аднак мы ўварваліся ў дом, а фрыцы ўцяклі на другі паверх. Мы за імі. Тут ужо страляніны не было. Дагналі іх на чацвёртым паверсе. Нас 6, у тым адзін паранены ў руку, а іх 7. І шчапіліся. Рукамі, кулакамі і прыкладамі. Са мной былі здаровыя хлопцы, сібіракі. І фрыцы папаліся нам таксама не слабыя. Адзін схапіў мяне за грудзі. Чую, цягне мяне да акна. Ужо і вуліцу, і брук бачу. «Прашчай жыццё!» — мільганула думка, калі рукамі шукаў нейкай апоры. У той момант хтосьці мяне разам з гэтым фрыцам пацягнуў назад. Аказалася, што гэта адзін сібірак у апошнюю хвіліну падаспеў мне на дапамогу. Рвануў немца ад акна, даў яму прыкладам у вуха. Фрыц аднак не пусціў маёй гімнасцёркі. Учапіўся медалёў і вырваў іх з сукном. Сібірак падняў яго ў паветры і, як ляльку швырнуў праз акно на брук. Так я астаўся ў жывых.

**Віктар Рудчык**



**Андрэй Лукашук з вёскі Волька Нурэцкая ў Сямяціцкім павеце, які перажыў бой за Маскву і Сталінград.**
**Фота: В. Рудчык**

загаілася, чалавеча.

Той маўчаў. Ішлі далей. Пачынала цямнець. Зусім прыстаў дзед Астап, падгіналіся, нылі каленкі ад доўгай дарогі. Ён звярнуўся да чалавека з загоенай рукой:

— Слухай ты, ласкавая душа! Спытацца ў цябе вось хачу...

— Ну?..

— Ты ж наскі чалавек, вядома? Гаворыш вось па-руску... Нашых крывей чалавек?

— А табе што?

— Ды мне нічога... А проста я спытаць цябе хачу: чаму гэта ты схуднеў так? Ці гэта ад харчу, — відаць, заслабы ён у цябе... Ці мала плацяць гэтыя... вашыя...

— Ты што вярзеш? — цягнуўся да Астапавай барады чалавек і троссяя, як у ліхаманцы, бледны, утрапёны.

— А ты не трапыхайся. Не твая барада — не твой клопат. Я хачу з табой спакойную бясeду мець. Мне ж цікава... Колькі чалавек крыві выпівае, а ўсё худнее. З чаго б тое? Дык скажы ты мне, ласкавы чалавек, пачым плацяць табе ад душы? Ад старэчай, дзіцячай? Ці за ўсіх бярэш разам?..

Чалавек цягнуўся да горла старога, але Астап, які дужаў мядзведзяў у маладыя гады, лёгка адпіхнуў яго і, прытрымліваючы за руку, усё папракаў:

— Вось не хочаш ты гаварыць са мной, адказваць... Жыцця ты майго хочаш, крыві маёй прагнеш! Заслаб ты для гэтага, заслаб... З натугі лопнеш, а мяне табе не ўзяць. Падохнеш ты сабакам, і яны падохнуць, голуб, ні дзе дзенуцца. Ты падушыў з імі ўнукаў маіх, дзетак маіх... Але сыны мае ж б'юць вас, пляменнікі б'юць, народ вас б'е... Ну, ну, ну... Не крычы-ы ты тут у мяне, не выслізайся вужакай. Нікуды не ўцячэш, і яны табе ўжо не паспеюць дапамагчы. А я ж не дапушчу цябе да смерці чалавечай... Госпадзі, благаславі!

Паляўнічы нож, які заўсёды насіў з сабой стары ляснік, спрытна слізгануўся ў руках Астапа, і «ласкавая душа» звалілася, храпучы на купіны, дзе дзьмула, завывала шалёная пазёмка*.

Дзед Астап ступіў колькі крокаў да невялічкай хвойкі, якая цямнелася наперадзе ў сірочай самоце, і тут яго акружылі, наваліліся, як стая галодных ваўкоў. Ён памёр ціха, маўкліва, прыняўшы смерць, як урачысты, споўнены доўг свой перад людзьмі.

Завея дзьмула ўсю ноч і ўвесь дзень і пазамяла да вясны ўсе сляды на балоце. І доўга яшчэ вясной, ды летам, знаходзілі партызаны трупы людзей у дзіравых шынялях, у лахманах, пад якімі былі добрыя мундзіры, а на іх афіцэрскія пагоны. Гэтых людзей ніхто не біў, не рэзаў, не страляў. Яны памерлі самі ў тую завейную ноч, калі разбрыліся па балоце, па лесе, шукаючы выйсця з марознай магілы.

**Міхась Лынькоў**

1. Што адбылося ў вёсцы, дзе жыў дзед Астап?

2. Хто і з якой мэтай прышоў у вёску? Кім аказаўся чалавек з перавязанай рукой? Звярніце ўвагу на яго мову і паводзіны ў вёсцы перад людзьмі і па дарозе ў лесе (прачытайце адпаведныя месцы ў тэксце). Аб якіх рысах характару і паводзін гэта сведчыць?

3. Як адпомсціў дзед Астап ворагам? Перадайце змест прамовы Астапа да чалавека з перавязанай рукой.

4. Складзіце план гэтага апавядання. Па складзенаму плану перакажыце змест.

5. Складзіце характарыстыку дзеда Астапа.

### СЛОЎНІК

Затрымцеў — закалаціўся, затросся

мянташка — прылада (лапатка) для вастрэння касы

пазёмка — завея, пры якой вецер гоніць сухі марозны снег нізка па зямлі.

## Беларускія кнігі

У Беластоку толькі ў адной кнігарні можна набыць беларускую кніжку. Гэта кнігарня пры вуліцы Кілінскага 10. Праўда, выбар зусім мізэрны, але ёсць пэўная колькасць беларускіх кніжак, якія не расчаруюць чытача або, прынамсі, варта пацікавіцца імі.

**Горад і годы.** Зборнік апавяданняў, нарысаў, замалёвак, артыкулаў. Цікавы кавалак гісторыі Беларусі.

**Крэсы змагаюцца** — Міхася Машары. Загаловак кніжкі гаворыць сам за сябе.

Данута Бічэль-Загнетава. **Запалянкі.** Кніжачка цудоўнай і як жа шчырай паэзіі вядомай гродзенскай маладой паэтэсы.

Юры Брэзан. **Крыста.** Фасцынуючая кніжка ГДР-аўскага серба-лужыцкага пісьменніка, які перажыў тэрор нацыстаў.

**Дзень паэзіі. 1967 год.** Перш за ўсё, малавядомыя звесткі пра беларускіх пісьменнікаў і цікавы фатаграфічны матэрыял.

**Куды ідзеш, Сяргей?** Аркадзь Маўзон. Вядомы гэты беларускі драматург тым разам падрыхтаваў кніжку драмы для мастацкай самадзейнасці. Падаем гэта да ведама нашым тэатральным гурткам, якім вечна не хапае рэпертуарных матэрыялаў.

Гэтыя кніжкі можна заказаць пісьмова па адрасу: Кнігарня «Дома кніжкі» Беласток, вуліца Кілінскага 10.

Гэтыя кніжкі можна таксама набыць у павятовых кнігарнях у Бельску, Гайнаўцы, Сямяцічах, Саколцы і Дуброве. Калі гэтых кніжак якраз не будзе ў продажу ў гэтых кнігарнях, дык трэба звярнуцца з просьбаю да кіраўніка кнігарні, каб выпісаў даную кніжку з беластоцкай кнігарні.

P.S. Пішам настаўнікам: у беластоцкай кнігарні ёсць «Арфаграфічны слоўнік». Мала, некалькі экз.

(ся)



 

Шмат размоў за апошні час вядзецца аб тэлепатыі. Іншы раз даводзіцца чуць проста сенсацыйныя рэчы. Шырокую вядомасць атрымалі, напрыклад, доследы, праведзеныя на амерыканскай падводнай лодцы «Наўцінас». Сцвярджалася, што ні сталёвая абшыўка, ні кіламетровая таўшчыня вады не былі перашкодай для тэлепатыі. Паведамлялася таксама аб тэлепатычнай сувязі двух людзей, якія знаходзяцца адзін ад аднаго за многія тысячы кіламетраў.




Вядома, мозг чалавека, як найвышэйшае стварэнне арганічнай прыроды, тоіць у сабе яшчэ многія неразгаданыя таямніцы. Яго будова ў шмат разоў больш складаная, чым будова любога фізічнага прыбора або электронна-вылічальнай машыны. І ўсё ж якія звесткі пра радыё мозгу можна лічыць верагоднымі?

Усе звесткі аб тэлепатыі можна разбіць на чатыры групы: самаадвольная (спантанная) тэлепатыя, дэманстраванне доследаў, звесткі з папулярнага друку і лабараторныя доследы вучоных.

Расказы аб спантаннай тэлепатыі найбольш шырока вядомы. Яны вусна перадаюцца з пакалення ў пакаленне, прыводзяцца на старонках газет і часопісаў. Іх можна знайсці ў многіх творах мастацкай літаратуры, мемуарах і біяграфіях вядомых людзей. Ва ўсіх выпадках справа зводзіцца да наступнага: калі з чалавекам адбываецца нешта надзвычайнае, то другі чалавек, яго блізкі сябар ці сваяк, перажывае ў гэты час незразумелы неспакой, бачыць дрэнныя сны і да т.п.

Ці могуць такія з'явы служыць навуковым доказам тэлепатыі? Не, не могуць, паколькі ўсе такія выпадкі можна растлумачыць супадзеннем дзвюх падзей.

Буржуазны друк часцей займаецца дэзінфармацыяй, чым інфармацыяй чытача. Каб павялічыць тыраж газеты, час ад часу друкуюцца ашаламляючыя сенсацыйныя паведамленні. На жаль, «адкрыцці» ў выніку некрытычных адносін да іх бываюць і ў нашым друку. Дастаткова ўспомніць артыкулы аб чарадзейным возеры ў Афрыцы або пра дзяўчынак-празорцаў, якія чыталі і рукамі, і нагамі, і плячом і нават бачылі, што ляжыць у закрытым сейфе. Незвычайныя здольнасці гэтых дзяцей не пацвердзіліся пры правядзенні эксперыментаў. Сенсацыйныя паведамленні былі нічым не апраўданы.

Псіхалагічныя доследы, якія дэманстраваліся публіцы, таксама не могуць служыць навуковым аргументам. Калі чалавек не пазбаўлен магчымасці паказаць фокус замест доследу, працуе з асістэнтамі, што знаходзяцца сярод публікі, то якая ёсць упэўненасць, што ён гэтай магчымасці не выкарыстаў? Ніякай.

Толькі ў строга навуковых доследах, пастаўленых з усёй неабходнай асцярожнасцю і стараннасцю, заключаецца зерне ісціны і толькі яны могуць служыць падставай для сур'ёзнага роздуму.

Упершыню такія доследы пачалі праводзіцца ўрачамі-псіхіятрамі і фізіёлагамі ў канцы мінулага стагоддзя. Французскі фізіёлаг Шарль Рышэ даследваў адгадванне задуманых карт. Пазней аналагічныя доследы ўжо з картамі Зенера былі праведзены ў Англіі, ЗША і СССР.

Індуктар (чалавек, які перадае думкі) і перцыпіент (той, хто прымае, адгадвае думкі) садзіліся за адзін стол тварам адзін да аднаго. На стале стаяў фанерны экран, які не дазваляў бачыць карты. Індуктар павольна браў карты адну за адной, глядзеў на іх, адзначаў у рэгістрацыйным лісце, якая на іх была адзнака, і складваў у стос. Перцыпіент запісваў свае адказы на такім жа лістку. У канцы сеанса запісы ў лістках звяраліся.

Якія ж вынікі? З 2.500 проб аднаго доследу, напрыклад, правільны адказ быў дадзены ў 540 выпадках. Найбольш верагодны лік супадзенняў — 500. Але па тэорыі верагоднасці можа быць 540 і большая колькасць супадзенняў.

Праводзіліся доследы з унушэннем і больш складаных узораў. Часцей за ўсё вынікі былі адмоўныя. Аднак адзначаліся і ўдачы.

Як відаць, патрабуецца яшчэ вельмі вялікая работа вучоных, каб канчаткова вырашыць пытанне аб магчымасці тэлепатычнай перадачы зрокавых вобразаў. Што датычыць перадачы зместу думкі, то ўсе спробы ажыццявіць яе да гэтага часу цярпелі няўдачу.

Накшталт таго, як электронна-вылічальная машына рашае задачы на падставе закладзеных у яе даных і лагічных схем, так і чалавек мысліць на падставе зафіксаваных у мазгу абстрактных паняццяў і правіл абыходжання з імі. І хоць мозг у розных людзей прыкладна аднолькавы, але ў кожнага чалавека закадзіравана свая сістэма лагічных паняццяў, свая «бібліятэка». У прынцыпе ў нармальнага чалавека не можа ўзнікнуць думка, калі яна лагічна не вынікае з вядомага яму запасу ведаў. Таму людзі розных прафесій нават з дапамогай мовы часта не разумеюць адзін аднаго.

Перадача думкі не толькі не выяўлена ні ў адным з доследаў, яна не зафіксавана і пры спантаннай тэлепатыі.

Трэба адзначыць памылковасць уражання, быццам бы пра тэлепатыю ў апошні час гавораць і пішуць усё больш і больш. У пачатку XX стагоддзя пра яе гаварылі і пісалі значна больш. У




многіх краінах былі арганізаваны спецыяльныя навуковыя таварыствы, праводзіліся міжнародныя кангрэсы, выходзілі вялікія манаграфіі. Відаць, навуковая бясплённасць усёй гэтай работы прывяла да таго, што буйныя вучоныя поўнасцю перасталі ёю займацца. Паведамленні аб тэлепатыі зніклі са старонак сур'ёзных навуковых часопісаў, а міжнародныя кангрэсы, прысвечаныя псіхалогіі і фізіялогіі мозгу, як правіла, праходзяць без удзелу прыхільнікаў тэлепатыі.

Усе гэтыя факты трэба мець на ўвазе для правільнай ацэнкі чарговых сенсацыйных паведамленняў аб тэлепатыі.

**В. Грыбкоўскі**

старшы навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі АН БССР, кандыдат фізіка-матэматычных навук.

## Прысяга лахара

У цэнтральнай Індыі жыве племя лахара, якое вядзе цыганскі амаль спосаб жыцця. Займаюцца яны толькі кавальствам. Вандруюць ад вёскі да вёскі, ад мястэчка да мястэчка.

Чатырыста год таму назад лахара жылі ў слаўным горадзе Чыттаргархз і кавалі раджпуцкім ваеўнікам зброю. Адважна ваявалі раджпуты, але не вытрымалі націску ворага і прайгралі бой. Тады жанчыны Чыттаргарха спалілі сябе жыўцом, каб не стацца здабычаю ворага. Тады ж прайграўшы бой палкаводзец Махарана Пратап разам са сваімі ваеўнікамі прысягнуў не жыць пад дахам, не спаць на ложках, не карыстацца лямпамі і не ўваходзіць у крэпасць да таго часу, пакуль не здабудуць яе з боем. Разам з ваеўнікамі склалі прысягу і кавалі-лахара.

Прамінула чатырыста год, а крэпасць так і не была здабытай. 6 красавіка 1955 года тагачасны прэм'ер Індыі, Джавахарлал Неру ўзначаліў святочны марш раджпутаў і ўвайшоў у Чыттаргарх, «здабыўшы» яго. Тым самым была знята цяжкая прысяга з патомкаў пераможаных ваеўнікаў. Неру заклікаў іх да аселага жыцця.

Але змяніць прывычны спосаб жыцця лахара аказалася справай няпростай, перад усім, у Індыі вялікі голад на зямлю. Затым, прывычка вандраваць увайшла ў кроў.

Племя лахара налічвае каля 100 тысяч чалавек. (ся)

## ПАЦАЛУНАК

Сабакі маюць дзве асноўныя прыкметы: стаюцца вернымі сябрамі і... стараюцца быць падобнымі на свайго пана. Прывязваюцца да людзей ад ранняга дзяцінства, што аказваюць, між іншым, пацалункам нават тады, калі не вельмі таго хочацца. Як бачым на здымку, 18-месячная дзяўчынка таксама не вельмі задаволена пачуццямі, якія аказвае ёй баксёр. (мф)



## ШПІЁНСКАЕ ПАВУЦІН- НЕ Ў ЗАХОДНЯЙ НЯМЕЧЧЫНЕ

У адну красавіцкую раніцу 1953 года ў многіх заходненямецкіх кватэрах паявіліся незнаёмыя з каменнымі тварамі. Гэтыя незнаёмыя бесцырымонна праводзілі вобыскі, пераварочвалі ўсё дагары. Арыштоўвалі людзей без прад'яўлення ордэраў на арышт. Так адначасова па ўсёй Заходняй Нямеччыне праводзілася сакрэтная аперацыя пад крыптанімам «Вулкан». Арыштоўвана прагрэсіўна настроеных людзей. Да гэтага часу адбылося ўжо каля 200 тысяч так званых «палітычных працэсаў», у выніку якіх рэпрэсіравана і асуджана каля паўмільёна чалавек.

«Пачынаючы ад 1950 года, не было ніводнага пасяджэння, ніводнага таварыства і ніводнай партыі, — сведчыць, напрыклад, заходненямецкі публіцыст Ганс Георг Герман, — у якія не засылаліся б агенты, каб перадаваць свайму начальству, што робяць, аб чым гавораць і што думаюць ва ўсіх гэтых месцах кожную мінуту».

Сетка канфідэнтаў раздута да неймаверных размераў. Нават у кожным большым будынку — «блёку» ёсць засакрэчаныя інфарматары контрразведкі. (ся)

## ГРАДУСНІКІ



Тое, што вы бачыце на здымку, гэта маленькія паўправадніковыя градуснікі. Міма так малой велічыні, мераць яны тэмпературу вельмі дакладна. Напрыклад, пры тэмпературы мінус 270 градусаў памыляюцца толькі на 0,005 градуса, інакш кажучы ніжэй 0,002 працэнта.

Вышэй апісаныя градуснікі паказана на Гаспадарчай выстаўцы ў Маскве. (А-ка)




Брэтмюлер ляжаў звязаны. Абст падышоў да століка з інструментамі, дастаў з кішэні пудэлачка ампул, адламаў у адной з іх канчык і выцягнуў вадкасць у шпрыц. Памочніца агаліла і пацерла спіртам плячо Брэтмюлера.

Абст спрытна зрабіў укол.

Калі ён паўтарыў іньекцыю, уводзячы яшчэ адну дозу, у жанчыны ўздрыганулі губы. Яна ўзяла вату, каб працерці месца ўколу, але Абст выняў з пудэлачка трэцюю ампулу.

— Дзевяцьсот тысяч! — прамармытала яна.

Замест адказа Абст зноў убіў шпрыц у руку пацыента.

Не прайшло і дзесяці мінут, як на твары хворага выступіў слабы румянец.

— Час! — скамандаваў Абст. Ён павярнуўся да Канарыса: — Прэпарат пачаў дзейнічаць.

Жанчына хутка развязала Брэтмюлера. Яго вочы паступова мянялі выгляд. Убачыўшы Абста, Брэтмюлер спрабаваў падняцца. Яму памаглі сесці.

— Сёння вы выглядаеце малайцом, — сказаў Абст. — Хутка будзеце на нагах.

— Але я зусім аслаб, — сказаў хворы. — Кружыцца галава, усё плыве перад вачыма.

— Глупства, — пацяшаў Абст. — Лячэнне ідзе паспяхова. І вось адказ: я прывёз вам госця.

— Я пазнаў адмірала Канарыса, — абыякава сказаў Брэтмюлер. — Адмірал хоча дапытаць мяне? Я гатовы. Скажу, што ведаю.

— Цудоўна! — сказаў Канарыс. — Вам удалося асвяціць грот? Як ён выглядае?

— Грот каласальны.

— Як вы апынуліся на волі?

— Выплыў праз той самы тунель. У мяне быў аварыйны рэспіратар... Я павінен расказаць і аб іншым... Пане адмірал, што вам вядома аб амерыканскім паветраным лайнеры «Спід», які дваццаць сёмага кастрычніка трыццаць восьмага года выляцеў з Пірл-Харбора ў Каліфорнію? Выляцеў і не прыбыў да месца назначэння...

Канарыс уздрыгануўся, рыўком нахіліўся да хворага.

— Якім чынам даведаліся вы аб гэтай машыне? — спытаў ён усхваляваным голасам.

— Я чуў голас «Спіда».

Хворы раптам збялеў. Здавалася, ён душыцца. Абст схапіў балон з кіслародам і накіраваў у твар марака.

Брэтмюлер пачаў супакойвацца. Канарыс глядзеў на яго, не адрываючыся. Думка адмірала напружана працавала.

Пірл-Харбор! Адна з найбольшых ваенна-марскіх баз ЗША на Ціхім акіяне.. Германская ваенная розведка не шкадавала намаганняў, каб як найбольш даведацца аб усім, што робіцца на гэтай базе, і вакол яе. Вясной 1938 года намаганні абвера пачалі даваць першыя вынікі. І неўзабаве Канарыс атрымаў інфармацыю: на тарпедным палігоне атола Мідуэй вядуцца звышсакрэтныя працы. Група даследчыкаў і інжынераў артылерыйскага ўпраўлення марскога міністэрства ЗША эксперыментуе тарпедай новага тыпу. Яшчэ праз нейкі час агенты абвера ўдакладнілі: тайна датычыць не самай тарпеды, галоўнае — яе ўзрывацель.

Гэта было ўсё. Далей абвер не зрабіў ні кроку. Відаць, контрразведка амерыканцаў нешта адчула, бо раптам працы былі перанесены на атол Уэйк. А туды агенты Канарыса не патрапілі прасачыцца.

На новым месцы працы працягваліся яшчэ месяцаў два, пасля чаго група даследчыкаў атрымала загад накіравацца ў ЗША. Дабыча яўна ўцякла з рук немцаў: за акіянам было б яшчэ цяжэй падабрацца да навінкі амерыканцаў.

Шпіёны абвера ўдакладнілі, калі і на якім самалёце адлятаюць даследчыкі. Выявілася, што ляціць уся група, у самалёт будзе пагружана ўсё абсталяванне і асноўная дакументацыя, звязаная з ваеннай навінкай.

Лайнер «Спід» стартаваў з аэрадрома Хікэм у Пірл-Харборы на світанні 27 кастрычніка 1938 года. Апрача ўсяго, ён вёз германскую бомбу замаруджанага дзеяння.

У Амерыцы самалёта не дачакаліся..

І вось цяпер раптам знайшоўся след лайнера «Спід»! Канарыс з вострай трывогай сачыў за тым, як Абст клапоціцца каля хворага. Ці ўдасца прывесці Брэтмюлера ў стан, пры якім зможа адказваць на пытанні?..

Удалося.

— Можаце працягваць, — сказаў Абст.

Канарыс удзячна кіўнуў галавой.

— Вы сказалі, што чулі голас самалёта, — сказаў ён. — Як гэта разумець?

— Радыст лодкі прыняў сігнал трывогі. Невядомы самалёт адкрытым тэкстам па-англійску перадаваў, што на базе здарыўся выбух, машына падае ў акіян... Голас быў так выразны, што здавалася — гаворыць недзе побач!

# ТРЫБУНА чытачоў

### ГУРАНЫ І АЎТОБУС

Пакуль што сядзіба прэзідыума ГРН у Гуранах не мае аўтобуснай лініі ані з павятовым цэнтрам у Саколцы, ані з ваяводскім горадам Беластокам. Уладам нявыгадна, а найгорш людзям, якія пражываюць у гэтай ваколіцы. Сяляне пры розных аказіях (як сесіі ГРН, вясковыя сходы, партыйныя сходы) закраналі вельмі важную для іх гэтую справу, выступалі са шматлікімі прапановамі, забавязвалі радных усіх рад нарадовых, але пакуль што дачакацца аўтобуса не могуць. Аўтобусная лінія мае прайсці праз Паўночны Востраў, Паўднёвы Востраў, Новы Востраў, пакрай Свідзялоўкі да Гуран. Ужо нешта зроблена на гэтай трасе. Пачалі рамантаваць маставыя ў двух Вострававах, рассунулі гару за гумнамі Паўднёвага Вострава. Найбольшай праблемай з'яўляецца будова мосціка каля Новага Вострава. І тут амаль нічога не зроблена. Чаму так памалу ўсё робіцца? Чаму начальнікі ГРН у Гуранах замала «стукаюць», каб хутчэй зрабіць выгаду з даездамі для людзей?

М. С.
Чытач з грамады Гураны

### ЁЛКА

20 студзеня ў Дубічах Царкоўных у зале святліцы адбылася навагодняя ёлка. Школьная моладзь да гэтага свайго свята даўжэйшы час рыхтавалася на чале са сваім арганізатарам — Ольгай Блізнюк. Адкрыццё ёлкі адбылося пад вечар. На сцэне выступалі дэкламатары і салісты.

Потым прышоў дзед Мароз і пачаў дзецям раздаваць падарункі. Зусім не можна было пазнаць у дзеду Марозе мясцовага грам. Мікалая Чыквіна. У час урачыстасці святліца была запоўнена прысутнымі да апошняга месца.

Навагодняя ёлка закончылася вучнёўскай забавай. Ігралі школьныя гарманісты: Янка Герасімюк і Янка Рыбак.

М. П.

### АМАТАРЫ З МАХНАТАГА

14 студзеня Дубічы Царкоўныя наведаў мастацкі калектыў з вёскі Махнатае (Гайнаўскі павет).

Самадзейнікі мелі багатую праграму, у склад якой уваходзілі: песні, гумар, сатыра, вершы, п'еса «Конская кніжка». Гледачам вельмі спадабалася выступленне маладых артыстаў-самадзейнікаў. Кожны нумар праграмы быў узнагароджаны бурнымі воплескамі. Пасля выступленняў самадзейнікаў адбылася ў святліцы забава для моладзі.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

### ПЛАН ПЕРАВЫКАНАНЫ

Згодна з павятовым планам Беласточчыны на грамаду Рыбалы прыпадала закантрактаваць 100 га збожжа. Наша грамада перавыканала гэты план. Было закантрактавана і ў мінулым годзе 121,5 га збожжа. Да дасягненняў ГРН у гэтай галіне найбольш прычынілася вёска Паўлы, якая на план 15 га закантрактавала 28 га збожжа.

**Мікалай Нікіцюк**
Рыбалы

### БУДУ ПІСАЦЬ

Я цяпер далёка ад сваёй роднай Беластоцкай зямлі, бо аж у другім канцы Польшчы, у Шчэціне. І хаця далёка жыву ад роднага дома, аднак вельмі часта ўспамінаю родную мову, знаёмыя твары людзей, з якімі я так зжыўся ў штодзённым жыцці. І часамі шкада, што прышлося расстацца з людзьмі, якія былі так блізкія майму сэрцу. Але няма на гэта лякарства, бо калі Радзіма патрабуе маладых салдатаў, значыць трэба ісці і быць гатовым да абароны сваёй краіны ў кожную мінуту. І хаця я не магу тут сустрэць вашага штотыднёвіка «Ніва», каб пачытаць аб справах родных вёсак, але роднай мовы я не забуду. Я даў сабе такое заданне, што ў вольныя хвіліны буду пісаць па-беларуску пісьмы для сваёй найлепшай «Нівы» аб жыцці тутэйшых людзей, аб справах моладзі, розных навасцях, якія тут будуць мне трапляць пад пяро...

**Янка Бура**
Шчэцін




**Дарагое Сэрцайка!**

У вёсцы Ванева бывае часта забава. На забаву прыходзіць многа моладзі. Нават хлопцы і дзяўчаты з суседніх вёсак. Забавы бываюць добрыя, але вось адна прыкрая з'ява, якая паўтараецца ў многіх вёсках — гэта тое, што на забавы прыходзяць замужнія жанчыны. І то прыходзяць не паглядзець, ці патанцаваць, а абгаворваць, абплятковаць дзяўчат і хлопцаў. Найбольш аднак «дастаецца» дзяўчатам. І такія іх выдуманыя на забаве плёткі нясуцца па суседніх вёсках. Мы ім не баронім прыходзіць на забаву, але няхай жа паступаюць інакш. Таму вось і мы пастанавілі напісаць да цябе, Сэрцайка, каб яны прачыталі, а калі не, дык мо хто іншы ім пра гэта скажа, тады трошкі культурней будуць сябе весці на нашых забавах.

Дзяўчаты
з суседняй вёскі

**Дарагія дзяўчаты!**

Нядаўна мы пісалі аб гэтай жа самай справе з іншай вёскі. Відаць, што і вы аб гэтым прачыталі, бо нават ваш ліст нічым не розніцца. Разумею вас, бо гэта і такая ж самая справа, на жаль яна вельмі частая на нашых вёсках і гэта адмоўная з'ява. Таму вось я пастанавіла замясціць ваша пісьмо ў нашым кутку. Мо сапраўды жанчыны зразумеюць свае паводзіны і пачнуць весці сябе культурней.

Сэрцайка

### АЎТАТРАНСПАРТ

Ад 1965 года ў Гайнаўскім павеце дзейнічае адзін з шаснаццаці ў нашым ваяводстве, Кааператыў вясковага транспарту. Галоўным заданнем яго з'яўляюцца транспартныя паслугі для ГС-аў, ПЗГС-ў, Кааператыву рамонтна-будаўлянага «Чын» у Гайнаўцы, а таксама індывідуальным сялянам. Кааператыў гэты прыняў на сябе поўнасцю нагрузку і разгрузку матэрыялаў, а таксама транспарт іх са станцыі для ПЗГС-у ў Гайнаўцы і ГС-у ў Нарве. Кааператыў сваімі машынамі давозіць тавар з гуртовых складаў ПЗГС аж да 134 крамаў дэталічнага продажу тавараў у павеце. З увагі на кароткі час дзейнасці кааператыву і аргамадную работу, якую выконвае гэтае прадпрыемства, вымушана яно пераадольваць многа розных цяжкасцей. Адна з іх гэта тое, што склад запасных частак для замены старых, месціцца пры рамонтным варштаце ў надта дрэнных умовах. Адчуваецца недахоп аўтамабіляў спецыяльна прыстасаваных да перавозу мэблі, будаўлянага жалеза, недахоп прыладаў да перагрузкі некаторых цяжкіх тавараў, няма аўтамабільнай вагі, а перад усім недахоп адпаведных умоў і прыладаў да рамонту аўтамабіляў.

— На тое і ёсць цяжкасці, каб іх перамагаць, — гаворыць Сцяпан Васілюк, — дырэктар гэтай установы. Дзякуючы такой пастанове дырэктара і добрай арганізацыі працы з года ў год узрастае гаспадарнасць і размер паслуг кааператыва. Тут на месцы разумна падзелена работа і адпаведна да гэтага дастасавана нормы працы. На станцыю абслугі транспарту прыдбана рэгулятар да калёс. прылады да ачышчання і рэгуляцыі запальваючых свечак у маторах, дастаўлена шліферку і нітаўніцу, у рамонтных варштатах заложана неонавае асвятленне. Выгаспадаравана спецыяльнае памяшканне на канцылярыю, спаяльню і акумулятарню. Усё гэта зроблена для паляпшэння абставін працы ў прадпрыемстве.

Многа робіцца дзеля разбудовы прадпрыемства. Пачата будова станцыі абслугі і цэлай базы, кошт якой складае суму 4,5 мільёна злотых. Грамадскім чынам людзі прадпрыемства зрабілі агароджу будучай базы і пабудавалі старажоўку.

У прадпрыемстве ёсць многа перадавікоў працы, да якіх трэба залічыць шафёраў: Станіслава Цвіклу, Грышу Мішчука, Паўла Алексеюка, а сярод рабочых грузчыкаў і спецыцыйных: Станіслава Грыневіча, Віктара Корсака, Юрку Волчыка, Мікалая Турыка і Паўла Матысюка.

**Юзэф Козак**
Гайнаўка

### ПАДАРКІ АД ПРАДПРЫЕМСТВА

Нядаўна ў Патоцы адбылася ёлка для школьнікаў. Апякунчай адзінкай гэтай школы з'яўляецца Ваяводская спулдзельня вясковага транспарту. Вось таму на ёлку прыбыў дырэктар гэтай установы грам. Пэлкоўскі. Ён правёў цікавую гутарку з дзяцьмі і, што найважнейшае, прывёз падарункі школьнікам, якія ўручыў ім дзед Мароз. У пачках былі, між іншым, апельсіны, а гэта ўжо навасць для вясковых дзяцей. Некаторыя з іх да гэтага часу не ведалі нават смаку апельсін.

Дзеці з Патокі выражаюць шчырую падзяку дырэктару Пэлкоўскаму за прыбыццё на школьную ўрачыстасць.

М. К.
Патока

### 400 ТОН ГАРОДНІНЫ

Найбольш гародніны (гуркоў, буракоў, капусты, морквы і цыбулі) садзяць у вёсках Войшкі, Плёскі, Дзяніскі, Храбалы. Кожны год Бельская спулдзельня «Огроднік» скупляе ў грамадзе Храбалы больш як 400 тон гародніны. Агуркі з Дзянісак здабылі такую папулярнасць на краёвым і загранічным рынку, што дастаткова прычапіць этыкету «Гуркі з Дзянісак», дык тады кантролю гуркоў амаль не бывае і залічаюць іх заўсёды да высокага гатунку. Спулдзельня часам гэтую этыкету з Дзянісак прычапляе і да закантрактаваных гуркоў з іншых вёсак. Аб тым гаварылі нам па сакрэту, але гэта праўда, што Дзяніскі славяцца вырошчваннем гуркоў.

**Аляксандр Трафімчук**
Храбалы

### ВАДА, ВАДА!

Бяда, калі няма вады. А калі яе дзе замнога, таксама бяда. Але часам так здараецца, што бяда памагае ў бядзе. Вось гэтак было ў Чыжах.

У Чыжах пабудавалі вялікі, прыгожы пункт аховы здароўя. У ім што хочаш, і цэнтральнае абаграванне, якое свае печы мае ў выгадных падвалах будынка. Там ёсць і месца на вугаль і на кокс. Там знаходзіцца шмат чаго іншага. Але цяпер у гэтых падвалах многа вады. Быццам там нейкі басейн.

Нядаўна ў Чыжах выбух пажар. Гарэла клуня Пятра Тыханюка. Прыехала пажарная каманда, ды вады стала не хапаць. Тады пажарнікі кінулі свае помпы ў падвалы пункта аховы здароўя, у якім вады было дастаткова.

**Антон Плева**
Чыжы

### НАЙЛЕПШЫЯ

Да найлепш працуючых вясковых клуба-кавярняў у Беластоцкім павеце залічваецца клуба-кавярня ў Баршчэве, а ў Бельскім павеце клуба-кавярня ў Страблі.

У агульнаваяводскім спаборніцтве на найлепш працуючыя клуба-кавярні Баршчэва закваліфікавалася на першае месца, а Страбля на другое месца.

(мс)

---

— І вы ўбачылі «Спід».

— Ёнываліўся з воблакаў за кармой лодкі. Машына пікіравала, за ёй цягнуўся хвост дыму. Неўзабаве недзе спераду бліснула полымя і грымнуў выбух.

— Але чаму вы вырашылі, што гэта быў «Спід»?

— Спераду былі рыфы. Самалёт урэзаўся ў іх. Маторы, кабіна пілота, пярэдняя частка фюзеляжа — усё гэта гарэла. Але хваставая частка лайнера ўцалела. Калі мой памочнік падабраўся да яе на гумовай лодцы, кіль і рулі тырчалі сярод скал. Праз паўгадзіны ў мяне ў руках аказаўся партфель. Вялікі партфель свіной скуры...

Брэтмюлер гаварыў штораз цішэй. Слухаючы яго, Канарыс неймаверна хваляваўся.

Камбінаваны электронны ўзрывацель! Усе гэтыя месяцы немцы спрабавалі выкарыстаць ідэю амерыканцаў. Але пакуль яны тапталіся на месцы. Заакіянская ж агентура абвера даносіла: праца над новым узрывацелем у ЗША ідзе паспяхова.

Абст зноў даў кіслароду Брэтмюлеру. Той працягваў:

— Пазней, калі мы пашлі пад ваду, я адкрыў партфель. Там быў дзённік кіраўніка групы і, апрача таго, чарцяжы...

— Узрывацеля?!

Брэтмюлер кіўнуў.

— Дзе гэты партфель? — спытаў Канарыс.

— Ён быў у маёй каюце. Для пэўнасці я замкнуў яго ў сейф. Ён і цяпер недзе там, у лодцы.

Канарыс сядзеў, не зводзячы вачэй з хворага, напружана думаў.

— Да вас ніхто не быў у гроце? — спытаў ён. — Вы не прыкмецілі там якіх-небудзь слядоў?

— Не.

— Вы сказалі, у вас быў дыхальны апарат... Адзін?

— Апаратаў было шмат, на ўсю каманду. Але я не мог дазволіць выкарыстаць іх. Я меў строгі загад: на базе ні пры якіх абставінах не павінны ведаць, што каля яе была германская лодка. Калі б людзі выплылі ў рэспіратарах... Карацей, я выканаў загад!

— Дык вы самі знішчылі лодку і ўвесь экіпаж?! — ускрыкнуў Канарыс.

— Сам! — Брэтмюлер паваліўся на ложак і закалаціў па галаве рукамі. — Я сам узарваў карабель, утапіў людзей. Навошта? У імя чаго?

Канарыс нагнуўся да Брэтмюлера, узяў яго за плечы.

Раптам хворы сціх.

— Асцярожна! — крыкнуў Абст.

Але было позна.

Брэтмюлер рыўком прыпадняўся на ложку. Рукі яго абвіліся вакол шыі Канарыса. Яны ўпалі ў пасцель, і Канарыс убачыў каля сябе фізіяномію вар'ята з вышчаранымі зубамі.

Канарыс крыкнуў і страціў прытомнасць.

(Працяг за тыдзень)

# КІНО

**Праграма
на 13—18.II.1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Powrót na ziemię" (polski), 13—14. „Grymasy" (węgierski), 15—16. „Porucznik jazdy" (radz.), 17—18.

**Дубіны**
„Zarezerwowane dla śmierci" (NRD), „Złodziej brzoskwiń" (bułg.), 17—18.

**Нараўка**
„Lenin w Polsce" (polski), „Gorzkie dno rzeki" (jugosł.), 14—18.

**Нарва**
„Partyzanckim szlakiem" (jugosł.), „Wojenka, wojenka" (rumuński), 14—18.

**Чыжы**
„Dialog" (węgierski), „Sam pośród miasta" (polski), 14—18.

**Дубічы Царкоўныя**
„Iwan Groźny" (radz.), I i II s. 14—18.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„W poszukiwaniu wczorajszej miłości" (węgierski), „Gwiazdy w morzu" (radz.), 14—18.

**Орля**
„Mroźny poranek" (radz.), „Złodziej samochodów" (radz.), 14—18.

**Райск**
„Najazd czarnego księcia" (radz.), „Ludzie w hotelu" (USA), 14—18.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Stajnia na Salwatorze" (polski), „Galia" (franc.), 13—16.

**Міхалова**
„Miłość w przyrodzie" (węgierski), 13—14. „Czterej pancerni i pies" (polski), 15—16. „Rodzaj miłości" (angl.), 17—18.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Ja twój syn" (węgierski), 13—14. „Przed wojną" (jugosł.), 15—16. „Kryptonim Nektar" (polski), 17—18.

**Шудзялава**
„Kochajmy syrenki" (polski), „Zerwany most" (polski), 14—18.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Kamo znany osobiście" (radz.), „Kamo niebezpieczna misja" (radz.), 14—18.

**Новы Двор**
„Na pokładzie stanął kapitan" (radz.), „Ściana czarownic" (polski), 17—18.

**Ліпск**
„Najazd Czarnego księcia" (radziecki), „Gdy miłość przemija" (jugosł.), 17—18.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-31-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia za zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 1-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. G-3. NAKŁAD 7799

# Бабская рада

Калісь вясковыя бабы, як толькі прышла зіма, то на цэлы рот суслілі кудзелю. А сягоння ўжо пачынаюць думаць як памагчы сваім мужыкам...

У вясковай хаце сабралася бабская рада. Мае сябрoўкі запрасілі мяне на сваё бабскае пасяджэнне.

— Набліжаюцца выбары ў кулках! — загаварыла Хвядося. — Трэба, кабеткі, добра падумаць, каго выбраць да нашага «зажонду».

— Памятаеце ўсе, у мінулую зіму выбралі за прэзаса Міколу Крывалапку. Ну, гаварылі, — цяпер то нашае кулка раскруціцца. Але цераз якісь час у вёсцы пераканаліся, што раскруцілася, але не ў той бок! А Крывалапка як толькі пабыў прэзасам, то зусім змяніўся. Бывала, ніхто яго не бачыў п'яным. А цяпер ідзе па вёсцы, то як бы ад ветру хістаецца. І да жонкі зачаў кідацца з кулакамі.

— Хіба ж нам, людкове, нячыстая сіла хвастом мяшае?!

— Крывалапкі жонка гаварыла, што вадзіла яго ўжо да знахаркі, але нічога не памагае. Ходзіць як падвеяны і толькі вачыма хлопае. Зусім чалавек адмяніўся і свянцоная вада не памагае!

— Падумайце, людкове, такое дабро, як трактары, марнуецца цэлую зіму на двары. А яны п'юць і дурнямі прыкідваюцца!

— Так! Але за што яны п'юць?

— Як то за што?! — Выскачыла як апараная Міронава Надзя. — Яны прапіваюць нашыя грамадскія грошы!

—Скажу вам ўсё, як на споведзі. Мой Сашок прымае ад людзей грошы, а Пеця Фулька ксянгуе. Часта аблічваюць усё на «вока» і біруць ад людзей на квіты больш чым трэба, вось і маюць за што папіваць.

— А што кантроль?

— Першы кантроль у іх гэта Крывалапка, а тыя, што прыязджаюць з павета, заўсёды не маюць часу. Але каб так параўналі квіты з кніжнымі запісамі, то далічыліся б, што ў кулку хутчэй круціцца сказоўкі гадзінніка! Бо ці ж адзін трактар можа выраблядь у суткі 48 гадзін?!

А цяпер Валодзька Даўганосік зміксціў дзела і ходзіць пацiху просіць, каб яго выбралі за прэзаса, і за скарбніка, і за дыспазытара.

— А нам жа, людкове, такіх круцялёў не трэба! І ўсе аднагалосна выбралі за прэзаса кулка Сцяпанаву Тоньку.

— От і пабачыце, як яна нам раскруціць кулка!..

Цётка Мальвіна



— Што ты, што ты, мой муж не з тых, якія здраджваюць.

# НІЎКА

Цётачка Мальвіна,
Усоды садзіш носа.
Без цябе не скурыш
Нават папяроса.

Цётачка Мальвіна,
Што ты нарабіла?
Ты ў Подварках прыпынак
На бок паваліла.

Муравана будка,
Ад дажджу хавацца,
Мусела ў Цільвічы
Хутчэй перабрацца.

Тут лягла на зямлю,
Блізка над шашою,
Хто ідзе ці едзе,
Круціць галавою.

«Тут табе здаецца» —
Гаварылі людзі —
«Цяжка стаць прыдатнай,
Можа й канец будзе».

## ЦЁТАЧКА МАЛЬВІНА

Чуўшы гэта солтыс,
Гаварыў: «сяляне,
Ящчэ ў гэтым годзе
Наша будка стане».

Зараз фундаменты
Да яе зрабілі,
Нават радок цэгал
Кругом палажылі.

І на тым замерла
Цэлая работа.
Бо каму ж патрэбна
Лішняя забота.

На гурбе цаглінаў
Мёрзнуць пасажыры,
Бо ў старэнькай будцы
Адны толькі дзіры.

За то завіруха
З радасці хіхоча:
Няхай мёрзне кожны,
Хто рабіць не хоча!

Хіба ж лепей з будкі
Праз акно дзівіцца,
Чым у чыстым полі
З зімна калаціцца.

Мікола Краўчук
Патока






Першы перыяд.






Трэці перыяд.

### У АДНОЙ СТАЛОВАЙ

Наведвальнік: — Кажу сур'ёзна — дайце кнігу скаргаў.

Дырэктар (спакойна): — А у нас самаабслугоўванне.

### А НАВОШТА?

Сустрэўшы аднойчы свайго знаёмага, лазеншчык пытаецца:

— Ты чаму перастаў у лазню хадзіць?

— А навошта? — адказвае той. — Мяне зараз два разы на месяц у працвярэзніку мыюць...

Усё людское нам не чужое.

### ПАРАДА

Венскі пісьменнік Петэр Альтэнберг, адчуўшы сябе дрэнна, звярнуўся да ўрача. Даведаўшыся пра жыццё пісьменніка, урач прапанаваў яму тэрмінова адмовіцца ад алкаголю і нікаціна. Альтэнберг моўчкі ўзяў паліто і капялюш і хацеў пайсці.

— Дазвольце, а ганарар за параду?

— Як гэта так? — здзівіўся Альтэнберг. — Я ж вашу параду не прыняў.

### ДЫ ЎСЁ ГЭТАЯ ХІМІЯ!

Знайшоў міліцыянер у самагоншчыцы змеявік:

— Што ж, грамадзянка, акт складаць будзем!

— Які акт, грамадзянін міліцыянер? Гэта ж наш Вася на гэтай машыне доследы па хіміі робіць!..

### ЯСНАСЦЬ У АДКАЗЕ

Прафесар: — Што вы ведаеце, Пятроўскі, пра загадку шаравай маланкі?

Пятроўскі: — Ці не думаеце вы, прафесар, што мой адказ унясе яснасць у гэтую загадку?




### У ГАСЦЯХ

— Трахім, скажы, чаго гэта твая жонка ўсё кашляе ды кашляе?

— Ат, не кажы! Апранула новую сукенку, дык хоча, каб на яе ўсе глядзелі.

### ПАПРОКІ

На пероне вакзала стаіць муж і жонка. Муж, пазіраючы на адыходзячы цягнік, злосна гаворыць:

— Калі б ты не валаводзілася, мы не спазніліся б на цягнік!

— Калі б ты мяне так не гнаў, нам не давялося б так доўга чакаць наступнага.

### ПРОСТА

— Праўда, што жанатыя мужчыны жывуць даўжэй чым халастыя?

— Не. Проста жыццё ім здаецца даўжэйшым.

### Песні на заяўках

Па просьбе Тамары Васілюк з вёскі Цялушкі, Бельскага павета, змяшчаем песню п.з.

## КОЛАС

За сяло ў прыволле
Выйду раніцой,
Дзе жытное поле
Свеціцца расой.
Заляю любімай
Песенькі матыў:
Колас, ты мой колас,
Колас залаты.

Радасны, шырокі
Мой жыццёвы шлях,
З мілым сінявокім
Тут гуляю я.
Добры ён — не знойдзеш
Гэткай дабраты.
Колас, ты мой колас,
Колас залаты.

Каб не паўстрачацца,
Дня не праміне.
Пазаўчора з танцаў
Ён правёў мяне
І сказаў — прыедзе
Да мяне ў сваты.
Колас, ты мой колас,
Колас залаты.

Быстры ручаёчак
Па лугу цячэ...
Пачакай, дружочак,
Хоць гадок яшчэ:
Малада я вельмі,
Сам жа знаеш ты,
Колас, ты мой колас,
Колас залаты.

# Курёзы



### Рэклама-светафор

Адзін з цырульнікаў Зандама (Галандыя) паставіў побач са сваёй крамай светафор. Чырвонае святло азначае, што ў яго поўна кліентаў, пры жоўтым — у вас усе шанцы хутка дачакацца сваёй чаргі, а калі гарыць зялёнае — ідзіце смела, крэсла свабоднае.

### Канец адной кар'еры

Калісьці Стэн Рэйнер быў пілотам бамбардзіровачнай авіяцыі ЗША. Потым вымушаны быў, каб зарабляць грошы, пайсці ў шынок, дзе весяліў публіку тым, што з'ядаў... вырабы са шкла. Але гэтай шматгадовай рабоце настаў нядаўна канец. Зубы ўрач катэгарычна забараніў 54-гадоваму Стэну есці шкло, таму што яно разбурае яго зубы. Першы засумаваў гаспадар шынка. «Шкада, — заявіў ён, — што Стэн павінен кінуць гэтую справу. Наведвальнікі захапляліся, гледзячы на яго». Смутак, але разам з ім і незвычайная гордасць, прагучалі ў развітальных словах Стэна: «За апошнія 30 гадоў я з'еў 1500 вінных чарак і бакалаў з-пад піва, і я шкадую, што трэба спыніць сваю работу».




«Мы толькі людзі», — гаворым мы ў тых выпадках, калі паступаем не па-людску.